

# БАЙРАМ

Квартальнік Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь і Беларускага грамадскага згуртавання татар "Зікр уль-Кітаб"

2000 ВЫПУСК 3-4

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

ВЫПУСК № 3–4 (39–40)

КВАРТАЛЬНІК
МУСУЛЬМАНСКАГА
РЭЛІГІЙНАГА АБ'ЯДНАННЯ
Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ
І БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКАГА
ЗГУРТАВАННЯ ТАТАР "ЗІКР УЛЬ КІТАБ"

Мінск 2000

**БАЙРАМ. ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ.** / Квартальнік Беларускага грамадскага згуртавання "Зікр уль Кітаб" і Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь, вып. № 3–4 (39–40) – Мн., 2000, – 68 стар.

Квартальнік "Байрам" – выходзіць з 1991 года. У ім змяшчаецца інфармацыя аб жыцці і дзейнасці мусульманскіх абшчын на Беларусі, аб асновах Іслама і правах мусульман, гісторыі беларускіх татар і важнейшых падзеях у мусульманскіх краінах. Выходзіць чатыры разы на год. Разлічаны на мусульман Беларусі, навукоўцаў, усіх, хто цікавіцца гісторыяй, культурай, мусульманскай рэлігіяй беларускіх татар.

Адказны за выпуск **Ібрагім Канапацкі**

Рэдактары **Ісмаіл Александровіч, Разалія Александровіч, Яўген Гучок, Ібрагім Канапацкі, Дзмітры Чымбаевіч, Таццяна Якубоўская**

Набор **Дзмітры Чымбаевіч**

بسم اللّه الرّحمن الرّحيم

***У імя Аллага Міласцівага, Міласэрнага!***

## Дарагія сябры!

У маіх руках штоквартальнік – часопіс «Байрам. Татары на зямлі Беларусі», №1, 1991 год. Ён вызначаны ад татарскага грамадска-культурнага аб'яднання «Аль-Кітаб» Мінскай вобласці. Гэты нумар «дайшоў» да мяне нейкім цудам і ў маім хатнім кнігазборы з'яўляецца, канешне, бібліяграфічнай рэдкасцю і незвычайнай каштоўнасцю, дарагім успамінам аб першым яе адказным рэдактары Якубе *(Якаве)* Адамавічу Якубоўскім.

«Байрам. Татары на зямлі Беларусі» выйшаў дзякуючы толькі нашаму цудадзейнаму татарскаму шматгалоссю, якое пачало адраджацца і захацела мець свой орган. Падкрэслю, першы друкаваны орган сярод усіх нацыянальных меншыняў. Сярод гэтых галасоў, не ў крыўду іншым, адзначу:

- Віталя Скалабана, тагачаснага супрацоўніка «Беларускай Савец-кай Энцыклапедыі» імя Петруся Броўкі *(гэта ён, вучоны-гісторык, прапанаваў для штоквартальніка назву «Байрам» – «Свята»);*
- Якуба *(Якава)* Адамавіча Якубоўскага, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР *(першы з беларускіх татараў, хто яе атрымаў)*, буйнейшага беларускага энцыклапедыста, які на працягу месяца дзень у дзень набіраў на сваёй машынцы ўвесь першы нумар «Байрама» і «пранёс» яго праз усё сваё сэрца і душу;
- Ібрагіма Барысавіча Канапацкага, вучонага, педагога і грамадскага дзеяча, які ўспрыняў на сябе падрыхтоўку галоўнага матэрыяла часопіса «Беларускія татары: мінулае і сучаснасць» і цяжар усёй выдавецкай дзейнасці.

Ёсць у гэтай кагорце і чацвёрты чалавек, пра якога аніяк нельга забыць – нябожчык, ветэран вайны, працы, грамадскі дзеяч, мовавед і публіцыст Ісмаіл Ісмаілавіч Меметаў...

Напярэдадні 10-гадовага юбілею «Байрама. Татары на зямлі Беларусі» для нашай памяці, ажыўлення яе, пералічым усіх тых першых, хто аказаў дапамогу, альбо неяк іншым чынам садзейнічаў выхаду яго першага нумара – гэта Э. Аджывелі, Л. Акаловіч, А. Александровіч, Э. Асановіч, У. Атрошчанка, І. Афнагель, Г. Бабкін, М. Багдановіч, Р. Барадулін, М. Баркоўскі, Х. Басьюні, Л. Буджурава, В. Вайткевіч, Д. Гарнышэва, Г. Гліннік, А. Грыцкевіч, М. Джамілеў, А. Емельянаў, М. Ермаловіч, Я. Звяруга, У. Зыль, А. Іваноў, Ш. Кайбулаеў, Л. Калядзінскі, С. Камілеў, Т. Канапацкая, Я. Карпінчык, Г. Каханоўскі, С. Крукава, Ч. Кудаба, П. Кухта, Я. Лецка, С. Макаёнак, К. Мамак, Г. Маслыка, Г. Меметава, В. Несцяровіч, Г. Няхайчык, Б. Пазднякоў, Б. Путрык, М. Раманюк, П. Садоўскі, В. Салаўёў, В. Скалабан, А. Спрынчан, Ю. Сцяфанаў, К. Тарасаў, М. Ткачоў, У. Умераў, Е. Фешчанка, Ф. Фаізаў, А. Хаджар, І. Хаўратовіч, В. Хацкевіч, К. Цвірка, М. Чарняўскі, А. Чуланаў, М. Шавыркш, В. і Ў. Юшкевічы, А. Якубоўскі, Ф. Янкоўскі, шмат каго з іх ужо няма, а ўсё роўна жывяць усіх нас!

Зараз другі час, а праблемы з выданнем «Байрама» – тыя ж! Палякі на Беларусі выдаюць цудоўную газету «Głos znad Niemna», «Magazin Polski», іншыя друкі, плацяць за іх грошы і радуюцца, што маюць у сваім ужытку. Тое ж робяць яўрэі, украінцы, прадстаўнікі іншых народаў і народнасцяў.

На IV з'ездзе мусульман Беларусі *(2000 г.)* асабліва жанчыны-дэлегаткі падымалі свой голас, каб аднавіць былую традыцыю беларускіх татараў – толькі на свае грошы выдаваць свае выданні, каб яны маглі дайсці да кожнага жадаючага.

Што гаварыць, з такой думкай, з такім жаданнем актывістак-жанчын мужчынам-мусульманам трэба пагадзіцца, бо нішто не шкодзіць чалавеку, як дарэмшчына, дармаўшчына; калі нехта з нас на свае кроўныя грошы нешта прыдбае, дык і адносіны ў яго да гэтай рэчы зусім іншыя – больш беражлівыя. Гэта ж адносіцца і да крыніц друку. Мне дасюль успамінаюцца словы старой жанчыны-мусульманкі з Новай Мышы *(Гл. «Падарожжа да... апошняга шляху», газета «Культура», №14(420) ад 8–14 красавіка 2000г.)*, як у цяжкія, жорсткія і галодныя дні яна набыла словы Аллага *(Мугір)* на сцяну свайго пакоя...

Тады ж на IV з'ездзе ўскалыхнулі мяне і словы, калі не памыляюся, шаноўнага старшыні Ляхавіцкай мусульманскай абшчыны Алі-Рашыда Байрашэўскага, які заклікаў дэлегатаў зрабіць збор сродкаў на свае выданні «Байрам» і «Жизнь».

Мне так здаецца, што такія памкненні, гукі душаў і сэрцаў, ініцыятыву нізоў трэба як мага хутчэй падтрымаць і на сумесным пасяджэнні Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў рэспубліцы Беларусь і Беларускага грамадскага аб'яднання татар «Зікр уль Кітаб» выпрацаваць рашэнне, як ажыццявіць гэта на самай справе на карысць усіх беларускіх татар і іх падтрымоўцаў.

**Міхась Маліноўскі**



# КУР'АН

## Сура трынаццатая — Гром

*(Заканчэнне. Пачатак у нумары 1–2 за гэты год)*

***У імя Аллага Міласцівага, Міласэрнага!***

**19 (19).** Хіба ж той, хто ведае, што тое, што паслана табе ад твайго Госпада, — праўда, падобны да таго, хто сляпы? Бо ўспамінаюць толькі тыя, хто надзелены розумам,

**20 (20).** каторыя верна выконваюць запавет Аллага і не парушаюць абяцанні;

**21 (21).** і тыя, каторыя злучаюць тое, што прыказаў Аллаг злучыць, і баяцца свайго Госпада, і маюць небяспеку перад злым разлікам;

**22 (22).** і тыя, каторыя цярпелі, імкнучыся да аблічча свайго Госпада, і выстойвалі малітву, і давалі з таго, чым Мы іх надзялілі, і тайна і відавочна, і адганяюць дабром зло. Для гэтых — адплата жытла —

**23 (23).** сады вечнасці. Увойдуць у іх тыя, хто быў праведны з іх бацькоў, і іх муж, і іх нашчадкі. І анёлы ўваходзяць да іх праз усе дзверы:

**24 (24).** *«Мір вам за тое, што вы цярпелі!»* І цудоўная адплата жытла!

**25 (25).** А тыя, каторыя парушаюць запавет з Аллагам пасля абяцання вернасці і разразаюць тое, чаму воліў Аллаг быць злучаным, і распаўсюджваюць гнюснасць на зямлі, для тых — праклён і для іх — злое жытло!

۞ أَفَمَن يَعْلَمُ أَنَّمَا أُنزِلَ إِلَيْكَ مِن رَّبِّكَ الْحَقُّ كَمَنْ هُوَ أَعْمَىٰ إِنَّمَا يَتَذَكَّرُ
أُوْلُوا الْأَلْبَابِ ﴿٢١﴾ الَّذِينَ يُوفُونَ بِعَهْدِ اللَّهِ وَلَا يَنقُضُونَ الْمِيثَاقَ ﴿٢٢﴾
وَالَّذِينَ يَصِلُونَ مَا أَمَرَ اللَّهُ بِهِۦ أَن يُوصَلَ وَيَخْشَوْنَ رَبَّهُمْ وَيَخَافُونَ
سُوٓءَ الْحِسَابِ ﴿٢٣﴾ وَالَّذِينَ صَبَرُوا ابْتِغَآءَ وَجْهِ رَبِّهِمْ وَأَقَامُوا الصَّلَوٰةَ
وَأَنفَقُوا مِمَّا رَزَقْنَٰهُمْ سِرًّا وَعَلَانِيَةً وَيَدْرَءُونَ بِالْحَسَنَةِ السَّيِّئَةَ
أُوْلَٰٓئِكَ لَهُمْ عُقْبَى الدَّارِ ﴿٢٤﴾ جَنَّٰتُ عَدْنٍ يَدْخُلُونَهَا وَمَن صَلَحَ
مِنْ ءَابَآئِهِمْ وَأَزْوَٰجِهِمْ وَذُرِّيَّٰتِهِمْ وَالْمَلَٰٓئِكَةُ يَدْخُلُونَ
عَلَيْهِم مِّن كُلِّ بَابٍ سَلَٰمٌ عَلَيْكُم بِمَا صَبَرْتُمْ فَنِعْمَ عُقْبَى الدَّارِ ﴿٢٥﴾
وَالَّذِينَ يَنقُضُونَ عَهْدَ اللَّهِ مِنۢ بَعْدِ مِيثَٰقِهِۦ وَيَقْطَعُونَ مَا أَمَرَ
اللَّهُ بِهِۦ أَن يُوصَلَ وَيُفْسِدُونَ فِي الْأَرْضِ أُوْلَٰٓئِكَ لَهُمُ اللَّعْنَةُ
وَلَهُمْ سُوٓءُ الدَّارِ ﴿٢٦﴾ اللَّهُ يَبْسُطُ الرِّزْقَ لِمَن يَشَآءُ وَيَقْدِرُ
وَفَرِحُوا بِالْحَيَوٰةِ الدُّنْيَا وَمَا الْحَيَوٰةُ الدُّنْيَا فِي الْأَخِرَةِ إِلَّا
مَتَٰعٌ ﴿٢٧﴾ وَيَقُولُ الَّذِينَ كَفَرُوا لَوْلَا أُنزِلَ عَلَيْهِ ءَايَةٌ مِّن رَّبِّهِۦ
قُلْ إِنَّ اللَّهَ يُضِلُّ مَن يَشَآءُ وَيَهْدِي إِلَيْهِ مَنْ أَنَابَ ﴿٢٨﴾ الَّذِينَ ءَامَنُوا
وَتَطْمَئِنُّ قُلُوبُهُم بِذِكْرِ اللَّهِ أَلَا بِذِكْرِ اللَّهِ تَطْمَئِنُّ الْقُلُوبُ ﴿٢٩﴾

**26 (26).** Аллаг робіць шырокай долю таму, каму пажадае, і суразмярае, а яны радуюцца бліжэйшаму жыццю, але жыццё бліжэйшае ў адносінах да будучага — толькі часовае карыстанне!

**27 (27).** І гавораць тыя, каторыя не вераць: *«Калі б яму быў пасланы знак ад яго Госпада!»* Скажы: *«Сапраўды, Аллаг збівае са шляху, каго пажадае, і вядзе да яго таго, хто да Яго звярнуўся!»*

**28 (28).** Тыя, каторыя паверылі і сэрцы каторых супакойваюцца пры ўспамінах Аллага, — о так! бо ўспамінаннем Аллага супакойваюцца сэрцы, (29). — тыя, каторыя паверылі і рабілі добрае, — ім добра і добры прыстанак.

**29 (30).** Так паслалі Мы цябе да народа, да якога мінавалі ўжо народы, каб ты чытаў ім тое, што Мы ўнушылі табе, у той час, як яны не вераць у Міласэрнага. Скажы: *«Ён — Гасподзь мой! Няма бажаства, апроч Яго. На Яго я спадзяваўся, і да Яго мой зварот!»*

**30 (31).** І калі б Каранам рухаліся горы, ці рассякалася зямля, ці гаварылі б мёртвыя... Так, Аллагу належыць уся ўлада! Хіба не прыходзяць у адчай тыя, каторыя паверылі, што калі б Аллаг пажадаў, дык павёў бы прамым шляхам усіх людзей.

**31.** І не перастае паражаць удар тых, каторыя не верылі, за тое, што яны здзяйснялі, ці супыніцца ён блізка ад іх жытла, пакуль не прыйдзе абяцанне Аллага; сапраўды, Аллаг не мяняе часу абяцання!

**32 (32).** Здзекваліся над пасланнікамі і да цябе, і Я даў адтэрміноўку тым, каторыя не верылі. Потым Я іх схапіў, і якое ж было Маё пакаранне!

**33 (33).** Хіба той, хто ведае за кожнай душой тое, што яна набыла? ... І ўладкавалі яны Аллагу сутаварышаў. Скажы: *«Назавіце іх! Ці вы паведаміце Яму тое, чаго Ён не ведае на зямлі, ці якія-небудзь відавочныя па выяўленню?»* Да, размаляваны тым, каторыя не вераць, іх хітрасць, і адхілены яны ад шляху! А каго збівае Аллаг, таму няма павадыра!

**34 (34).** Для іх — пакаранне ў бліжэйшым свеце, і, безумоўна, пакаранне апошняга больш жорсткае. Няма для іх ад Аллага абаронцы!

**35 (35).** Прытча аб раі, каторы абяцаны богабаязным, дзе знізу цякуць рэкі: заўсёды там ежа і цень. Гэта — узнагарода тым, каторыя богабаязлівыя, а пакаранне няверным — агонь.

**36 (36).** А тыя, каму Мы ахвяравалі кнігу, радуюцца таму, што паслана табе; а сярод партый ёсць такія, што адмаўляюць частку гэтага. Скажы: *«Мне загадана пакланяцца Аллагу і не аддаваць Яму сутаварышаў; да Яго я заклікаю і да Яго маё вяртанне!»*

**37 (37).** І так Мы паслалі яго, як арабскі судзебнік. Калі ж ты пойдзеш за іх жарсцямі, пасля таго як прыйшло да цябе веданне, – няма табе ад Аллага ні памочніка, ні абаронцы!

**38 (38).** Мы пасылалі пасланнікаў да цябе і рабілі ім жонак і нашчадкаў. Не бывала, каб пасланнік прыводзіў знакі, інакш як з дазволу Аллага. Для ўсякай мяжы – сваё пісанне.

**39 (39).** Сцірае Аллаг, што пажадае, і сцвярджае: у Яго – маці кнігі.

**40 (40).** Ці Мы пакажам табе частку таго, што абяцалі, ці ўпакоім цябе. На табе – толькі перадача, а на Нас – разлік!

**41 (41).** Хіба яны не бачылі, што Мы прыходзім да зямлі і ўкарочваем яе па краях? Аллаг творыць суд, і няма таго, хто затрымлівае Яго суд, а Ён хуткі ў разліку!

**42 (42).** Ухітрыліся тыя, каторыя былі да іх, але ў Аллага – уся хітрасць. Ён ведае, што набывае ўсякая душа, і даведаюцца няверныя, каму адплата жытла!

**43 (43).** І гавораць тыя, каторыя не верылі: *«Ты – не пасланы!»* Скажы: *«Даволі Аллага сведкам паміж мной і вамі і таго, у каго веданне кнігі!»*



## Беларускія татары як складовая частка агульнай супольнасці

Як відаць з перапісу насельніцтва (*1999г.*) у Рэспубліцы Беларусь пражывалі 10089 татар[1]. На тэрыторыі Беларусі, гэтаксама як і ў суседніх Літве і Польшчы татары расселены дысперсна. Найбольшыя абшчыны татар знаходзяцца ў Мінску і Мінскай вобласці (*3841 чал.*), меньшыя – у Гродзенскай вобласці (*2155 чал.*), Віцебскай вобласці (*1258 чал.*), Гомельскай вобласці (*1127 чал.*), Брэсцкай вобласці (*933 чал.*), Магілёўскай вобласці (*775 чал.*). 8327 татар жывуць у гарадах і 1762 у сельскай мясцовасці. 44% ад агульнай колькасці ўсіх татараў складаюць жыхары Мінска і Мінскай вобласці, 23% – Гродзенскай вобласці, па 9% – Віцебскай і Гомельскай абласцей, 8% – Брэсцкай і 7% – Магілёўскай вобласці.

[1] За апошняе дзесяцігодзе колькасць татар скарацілася ў Рэспубліцы Беларусь больш чым на 2,5 тыс. чалавек.

Вылучаюцца дзве групы татар (*калі не лічыць крымскіх (36) і сібірскіх (21))*: мясцовыя, беларускія (*або літоўскія – па назве Беларуска-Літоўскай дзяржавы – Вялікага княства Літоўскага)*, якія пасяліліся тут некалькімі хвалямі спачатку з Залатой Арды, а пасля яе падзення ў канцы 15 ст. пераважна з Крымскага ханства і нетутэйшыя татары (*з Волгі, Урала, Сібіры і Крыма)*, перасяленне якіх пачалося пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі ў выніку падзелу Рэчы Паспалітай і захопу Крыма. Даволі многа пераехала татар на Беларусь пасля таго, як пачаліся пошукі радовішчаў нафты і яе пераапрацоўка на нафтапераапрацоўчых прадпрыемствах Беларусі.

У расійскіх і савецкіх перапісах (*гэтаксама і ў апошнім перапісу 1999г. у Рэспубліцы Беларусь)* беларускія татары не вылучаны асобна (*як, напрыклад, згаданыя крымскія і сібірскія татары і нават экзатычныя для Беларусі нагайцы (14), або туркі-асманы (35))*, хоць вядома, што беларускія татары адрозніваюцца ад астатніх татар па мове і звычаях. Што гэта – крыўдная памылка ці наўмыснае жаданне адмовіць у праве на існаванне яшчэ аднаму этнасу, які з'яўляецца складовай часткай беларускага народа?

Думаю, што тут мы маем справу з элементарнай неадукаванасцю, нежаданнем мець пэўныя веды па гісторыі беларускіх татар. Меў рацыю прафесар М. Піліпенка, які ў артыкуле "Роля татараў у беларускім этнагенезе" заўважыў, што *"роля татараў у беларускай нацыянальнай гісторыі высветлена недастаткова. Да гэтага часу не пераадолены да канца погляд, які атаясамлівае ролю татараў у вялікарускай і беларускай гісторыі. Між тым для такога атаясамлівання няма падстаў."* [2]

У практыцы грамадскай дзейнасці на ніве нацыянальна-культурнага адраджэння беларускіх татар прыходзіцца сустракацца з рознымі недарэчнасцямі. Недзе ў сярэдзіне 1998 года ў рамках праекта аб'яднання Расіі і Беларусі адбылася сустрэча прадстаўнікоў расійскай дыяспары з тагачасным міністрам па справах нацыянальнасцей Расійскай Федырацыі Рамазанам Абдулатыпавым. На яе была запрошана даволі вялікая і прадстаўнічая дэлегацыя рускай дыяспары і прадстаўнікі беларускіх татар. Дзіўна было слухаць на гэтай сустрэчы пра тое, што беларускія татары з'яўляюцца расійскай дыяспарай. Прыйшлося шаноўнаму міністру распавесці кароткія нарысы з гісторыі беларускіх татар.

[2] Першая міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Татары-мусульмане на землях Беларусі, Літвы і Польшчы." ч.І, Мн., 1994, сс. 38-39.

Агульнавядома, што беларускія татары з'яўляюцца унікальным народам, які жыве на землях Беларусі, Літвы і Польшчы вось ужо шэсць стагоддзяў. У 1997 годзе споўнілася 600 гадоў з часу зафіксаванага летапісамі і хронікамі афіцыйнага асадніцтва на землях Вялікага княства Літоўскага татараў-мусульман. Па вызначэнні ЮНЭСКа народ, які жыве на Богам дадзенай яму зямлі 500 гадоў лічыцца карэнным народам. Прафесар А. Грыцкевіч лічыць, што літоўскія татары сфарміраваліся як народнасць у 14–16 ст. на землях ВКЛ у перыяд існавання Залатой Арды і пасля яе распаду, калі адбывалася фарміраванне асобных цюркамоўных народнасцей пад агульнай назвай татары. У праве на адметнасць і самабытнасць беларуска-літоўскім татарам не адмаўляюць і даследчыкі Татарстана. У 1995 годзе ў Казані накладам у 5000 асобнікаў выйшла манаграфія прафесара Якава Грышына "Польска-літоўскія татары (нашчадкі Залатой Арды)." У мінулым (1999) годзе таксама у Казані пабачыў свет "Татарскі энцыклапедычны слоўнік"– першае, як адзначаецца ў анатацыі, універсальнае навуковае выданне, прысвечанае татарскаму народу і Татарстану ў яго гістарычных межах са старажытных часоў да нашых дзён." У кнізе звыш 16 тыс. артыкулаў, у тым ліку каля 7 тыс. біяграфічных. Ёсць артыкул "Польска-літоўскія татары", у якім знаходзім: *"Польска-літоўскія татары – самастойная этна-тэрытарыяльная супольнасць татар. Агульная колькасць польска-літоўскіх татар паводле дадзеных 1993г. – звыш 26 тыс. чалавек, у тым ліку ў Беларусі – звыш 10 тысяч, каля 4 тысяч – у Літве, у Польшчы – звыш 5 тысяч. Мова ў асноўным беларуская, літоўская і польская. Пісьменнасць на аснове кірыліцы і лацінскай графікі. Вернікі – польска-літоўскія татары – у асноўным мусульмане-суніты. Пачалі фарміравацца ў канцы 14 ст. на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага з выхадцаў з Залатой Арды, а пазней з Вялікай і Нагайскай Ордаў, Крымскага ханства, дзе ў першай палове 15 ст. утварылі васальнае Літве княства – Джагалдай."* [3]

Першыя звесткі пра знаходжанне татар на тэрыторыі Беларусі гісторыкі адносяць да пачатку 14 ст. Вялікія князі ВКЛ Гедзімін, Кейстут, Альгерд запрашалі татар з Залатой Арды на службу і выкарыстоўвалі ў барацьбе з Тэўтонскім ордэнам. Асаблівую апеку татарам аказваў Вітаўт, які разлічваў на іх як на ўмелых коннікаў

---

[3] Джагалдай (Ягалдай) невялікае татарскае ўладанне ў складзе ВКЛ (існавала прыкладна на тэрыторыі сучаснай Курскай вобласці і прылягаючых да яе земляў). Заснавана ў 1438 г. выхадцамі з Залатой Арды. Існавала да пачатку 16ст. на правах васальнага уладання літоўскіх князёў. – Татарский энциклопедический словарь. Казань, 1999, с. 172.

і сяліў пераважна на заходніх межах дзяржавы і ў наваколлі буйных замкаў. У 1395 г. Вітаўт прыняў разбітага Цімурам хана Залатой Арды Тахтамыша, які быў паселены са сваёй дружынай у г. Лідзе. Шмат татар было перасёлена ў ВКЛ у выніку сумеснага паходу Вітаўта і Тахтамыша пад Азоў (*1397; гэта дата традыцыйна лічыцца пачаткам пасялення татар на Беларусі)* і Крым (*1398)*. Яны былі размешчаны на берагах р. Вакі каля Вільні, а таксама ў самой Вільні, у Трокскім, Ашмянскім, Лідскім, Навагрудскім, Брэсцкім паветах, на Валыні і ў Аўгустоўскай губерні.

Татары пасяляліся на Беларусі згуртаванымі родаплемяннымі групамі (*улусамі)*, што ўплывала на іх ваенна-адміністрацыйны лад. Усе ваеннаслужачыя татары падзяляліся на харуствы (*тыя ж племянныя улусы)*, а ў ваенных адносінах на сцягі (*атрады)*. Часта харуствы і сцягі супадалі. Татары асядалі на Беларусі неадначасова, таму іх улусы не займалі які-небудзь пэўны павет. У люстрацыі татар Вялікага княства Літоўскага згадваецца 6 "фамілій" (*харуствай, родаплемянных груп)*, з якіх Уланская (*уланы, агланы)* — нашчадкі малодшых ліній залатаардынскіх ханаў — налічвала 179 дамоў, 5 іншых склаліся на аснове плямёнаў, што ўваходзілі ў Залатую Арду і прынялі ўдзел у этнагенезе шэрагу цюркскіх народаў Паўночнага Прычарнамор'я і Сярэдняй Азіі (*падаюцца ў парадку пасялення ў ВКЛ)*: Уйшунская харуства склалася з цюркскага племені уйшун (*уйсын, усын, юшын)*, 244 дамы ў Трокскім, Віленскім і Лідскім паветах. Найманскае харуства адпавядала цюрскаму племені найманаў, 126 дамоў у Ашмянскім і Віленскім паветах. Джалаірскае харуства прадстаўляла нашчадкаў племя джалаір, у склад якога увайшлі цюркскія плямёны і прынялі ў 13 ст. гэту назву, 74 дамы ў Віленскім, Навагрудскім і Ашмянскім паветах. Кангарацкае харуства адпавядала племені канграт, 71 дом у Трокскім, Віленскім, Ашмянскім і Мінскім паветах. Племя барын, старэйшыя роды якога былі аднымі з вышэйшых у Крыме, мела 82 дамы ў Навагрудскім і Мсціслаўскім паветах. Паводле сацыяльна-эканамічнага становішча татарскае насельніцтва на землях ВКЛ у 16—17ст. можна ўмоўна падзяліць на тры катэгорыі. Найбольш прывілеяваная група — прамыя нашчадкі залатаардынскіх ханаў (*Астрынскія і Пунскія)* і мурзаў, якія атрымалі тытулы князёў: Асанчуковічы, Барынскія, Кадышэвічы, Карыцкія, Крычынскія, Лоўчыцкія, Смольскія, Талькоўскія, Юшынскія і іншыя. Яны валодалі вялікімі вотчынамі з сялянамі, за што павінны былі несці ваенную службу. Да другой належалі нашчадкі простых воінаў. Яны атрымлівалі невялікія надзелы

зямлі і апрача ваеннай службы, выконвалі павіннасці на карысць вялікага князя (*транспартную, кур'ерскую, каравульную і інш)*. У 1561 і 1568 гадах яны атрымалі прывілеі на шляхецтва ад караля Жыгімонта II Аўгуста (*зацверджаны у 1576, 1608 і 1634гг.)*. Да трэцяй групы адносіліся гарадскія ("*простыя*") татары – самая бедная група татар на Беларусі. Паходзілі яны з перасяленцаў, якія на гістарычнай радзіме былі не феадаламі, а вольнымі або залежнымі "ясачнымі людзьмі". У гарадах і мястэчках ім адводзілася зямля пад сядзібы і агароды. Яны неслі павіннасці, як і мяшчане, плацілі пагалоўны падатак. Асноўнымі іх заняткамі былі рамізніцтва, гарбарства, агародніцтва, жывёлагадоўля.

З другой паловы XVII ст. ў татарскім асяроддзі знікаюць племянныя адрозненні, татарскія пасяленцы ўсе часцей прымаюць беларускія прозвішчы: Кандратовічы (*нашчадкі племені кунгратаў)*, Бараноўскія (*нашчадкі племені Барын)*, Карыцкія (*нашчадкі рода Уланаў)*. Александровічы, Гембіцкія, Раецкія, Смольскія і інш. Знікла і асобая татарская адміністрацыя – харунжыя (*ваенныя)*, маршалкі (*земскія)*, кадзі (*суддзі)*.

Нягледзячы на пэўныя льготы і рэлігійную верацярпімасць (*свабодна дазвалялася вызнаваць іслам і будаваць мячэці)* татары ў ВКЛ не мелі права ўдзельнічаць у выбарах у Сойм і мясцовыя соймікі, займаць вышэйшыя дзяржаўныя пасады. Аднак шэраг татар вызначыліся на дыпламатычнай службе, былі «пісарамі татарскімі» – перакладчыкамі з татарскай і турэцкай моў у адносінах з Крымам і Турцыяй. Найбольш вядомы з іх князь Абрагім Тымерчыч у пачатку XVI ст. – «пісар татарскі» канцылярыі ВКЛ пры вялікіх князях Аляксандру і Жыгімонце I.

Такім чынам, у канцы XIV–XVI стст. татары Вялікага княства Літоўскага (*жылі на тэрыторыі Беларусі, Літвы, Валыні, Падоллі)* склаліся ў самастойную этнатэрытарыяльную супольнасць – літоўскія татары, якіх разам з каronнымі татарамі (*жылі на Падляшшы)* называліся польска-літоўскімі татарамі,– з 1920-х гадоў – беларуска-літоўскімі, беларускімі татарамі, у канцы XX ст.– заходнімі татарамі. Перасяленцаў з татарскіх ханстваў адзначалася ўсё менш, іх апошнія хвалі склалі татары-уцекачы з Паволжжа ў 2-й палове XVI ст. пасля заваявання Расійскай дзяржавай Казанскага і Астраханскага ханстваў і мігранты з Крыма ў XVII – пачатку XVIII ст. (*толькі на Украіну)*.

Татары, якія пасяліліся на тэрыторыі Беларусі ў перыяд сярэдневечча, адносяцца пераважна да этнічных супольнасцей Крымскага паўвострава, Паўночнага Каўказа і часткова Паволжа. Сведчаннем гэтага з'яўляюцца этнакультурныя асаблівасці беларускай групы

цюрскіх моў, якія пашыраны былі галоўным чынам на поўдні. Прафесар М. Піліпенка адзначае, што па антрапалагічным тыпе беларуска-літоўскія татары таксама бліжэй да татар поўдня, тых, што знаходзіліся на Крымскім паўвостраве, Паўночным Каўказе, на захадзе Паволжа. Татары ВКЛ адрозніваліся ад этнасаў Цэнтральнай і Сярэдняй Азіі і сваім гаспадарча-культурным тыпам. У іх гаспадарцы пераважала земляробства, у прыватнасці агародніцтва, садаводства, а не жывёлагадоўля. Беларускія татары адрозніваліся ад азіяцкіх рэлігійнымі вераваннямі.

Для разумення ролі татараў-мусульман у беларусскай нацыянальнай гісторыі неабходна звярнуць увагу на першапачатковыя месцы іх асадніцтва. Першапачаткова больш за ўсё яны пасяляліся ў цэнтральнай частцы Белай Русі – у Панямонні, а затым на яе поўдні і поўначы. Менавіта спачатку ў цэнтральнай частцы Белай Русі, а затым на яе поўдні і поўначы ў гэты час утварыўся беларускі этнас, фарміравалася яго мова і комплекс традыцыйнай культуры. Усе гэтыя фактары былі ўмовай таго, што асобныя групы татараў-мусульман бралі ўдзел у беларускім этнагенэзе. Пра гэта сведчаць многія факты, у прыватнасці, назвы рэк (*Уса – вада, Сула – слабы, вялы, Гайе – заслуга, Шчара – жоўтая, Жыжма – жаночае татарскае імя)*, паселішчаў (*са шматлікіх этнанімічных назваў, што трапляюцца на карце Беларусі, вельмі частымі з'яўляюцца тыя, якія ўтвораны ад слоў «татарын» або турак. Усяго такіх найменняў, як лічыць прафесар В.В. Шур, захавалася да нашых дзён на Беларусі больш за 25)*.

У новай сваёй Айчыне татарскія пасяленцы арганічна ўжываліся, з пакалення ў пакаленне, у мясцовы сацыяльна-палітычны і бытавы ўклад жыцця, станавіліся паўнапраўнымі грамадзянамі, а па неабходнасці самаадданымі абаронцамі краіны. Гэтымі патрыятычнымі вартасцямі беларуска-татарскія воіны вызначаліся ў супрацьстаяннях ВКЛ нашэсцям не толькі з захаду (*крыжакі, гераізм татарскай конніцы ў бітве пад Грунвальдам)* або з усходу (*Масковія)*, але таксама з боку крымскіх татар, спусташаўшых набегамі межы дзяржавы. У актах Літоўскай метрыкі захаваўся знакаміты адказ тутэйшых татар – своеасаблівы заклік да рыцарскага гонару адзінаверцаў, што ўварваліся ў межы краіны: *«Ні бог, ні Прарок ... не загадваюць вам рабаваць, а нам быць няўдзячнымі. Мы паважаем вас як драпежнікаў і шаблямі нашымі знішчаем рабаўнікоў, а не братоў нашых».*

У суплiце татараў да караля Жыгімонта ёсць упамінанне пра прысягу, якую на шаблях давалі іх бацькі, што будуць вернымі беларусам, з якімі *«... пясок, вада і дрэвы з'яўляюцца нам агульнымі».* Ці

вось яшчэ прыклад. Пад час руска-польскай вайны 1792 г. татарскае насельніцтва аднадушна заявіла аб сваёй падтрымцы законнай улады. Як адзначала газета «Нарадова і обца», *«народ татарскі праз трох пасланых ад яго дэпутатаў паведаміў на правінцыяльнай сесіі Вялікага княства Літоўскага, што як і ў Варшаве, так і ў правінцыях адважныя салдаты, сабраўшыся да сваіх мулаў, прысягалі на Кур'ане бараніць караля, Бацькаўшчыну і Канстытуцыю»*.

Вядомыя сваімі подзвігамі і ўмельствам у баях як шэраговыя воіны, так і камандзіры. Гэта перш за ўсё генералы Юсуф Беляк, Якуб Ясінскі, які загінуў у прадмесці Варшавы – Празе. Вядомасць атрымалі і іншыя генералы, такія як Муса Сулькевіч, многія афіцэры, што змагаліся за свабоду і незалежнасць сваёй Бацькаўшчыны.

Мужнасць беларускіх татар і пралітая кроў у абароне Рэчы Паспалітай былі прычынай таго, што польска-літоўска-беларускае грамадства прызнала іх за сваіх, за паўнапраўных і паўнавартасных грамадзян. Ян Дуклян Ахоцкі ў сваіх мемуарах, успамінаючы пра розныя роды Оўруцкай зямлі, так пісаў пра беларускіх татар: *«...ёсць татары перакопскія, кыпчакі, што былі на службе Рэчы Паспалітай, некаторыя засталіся ў Оўруцкай зямлі, прынялі хрысціянскую веру, а большасць у Літве трымаюцца пры сваёй дайняй веры, маюць мячэці і мулаў. З такой вось сям'і і быў той слаўны генерал Беляк і нямала вышэйшых афіцэраў: Ахматовічы, Азулевічы і г.д., якія да скону свайго жыцця верна служылі абранай Радзіме. Трэба аддаць належнае ўсім сем'ям без выключэння ... натуралізаваная ў краіне новая шляхта палюбіла новую Айчыну і верна ей служыла»*.

У XVI– пач. XVII ст. татары ВКЛ паступова страцілі сваю родную мову і сталі карыстацца беларускай (*пазней таксама польскай, а з XIX і рускай)*. Існуе перакананне, што беларускія татары забылі сваю мову таму, што бралі сабе за жонак славянскіх дзяўчат і тыя выхоўвалі дзяцей на беларускай мове.

Вядома часткова рацыя ў гэтым ёсць. Толькі вядома з гісторыі, што пры пасяленні венграў над Дунаем яны прыйшлі і пасяліліся тут зусім без сваіх жанчын, але навучылі іх венгерскай мове, прыняўшы хрысціянства, не зліліся з навакольнымі народамі. Татары мелі сваіх жанчын, дзяцей і маглі прадаўжаць свой род. Галоўнае для татарына было тое, каб трымацца сваёй мусульманскай веры. Святыя кнігі мусульман напісаны на арабскай мове і на арабскай мове адпраўляюцца малітвы. Будучы адкрытым народам, які не мае ніякіх таямніц ад навакольнага насельніцтва, беларускія татары яшчэ ў XVI ст. стварылі багатую літаратуру – на беларускай

і польскай мовах арабскім пісьмом – кітабы, тэджвіды, тэфсіры, хамаілы.

Цяпер тутэйшыя татары разумеюць больш за сто тысяч слоў, а праз беларускую мову лёгка разумеюць польскую, славацкую і іншыя славянскія мовы. У той жа час татары перадалі ў беларускую мову шмат цюркізмаў (*па падліках Я. Якубоўскага больш за 600*).

У паўсядзённым жыцці, у рэлігійнай лексіцы беларускіх татар ужываюцца каля 300 слоў, якія зразумелыя татарам і не патрабуюць перакладу, хіба што для нашых сяброў, калі іх гэта цікавіць.

Можна быць татарынам, хоць і не ведаць татарскай мовы. Гэтаксама як і называцца беларусам, не ведаючы беларускай мовы. Жывучы распрушана на Беларусі, часам па некалькі сем'яў у вёсцы ці мястэчку, слоўнікавы склад звужаецца і такая група абыходзіцца некалькімі тысячамі слоў.

Некаторым нашым дзеячам не хапае 100 000 беларускіх слоў, каб выказаць вялікія ідэі, а таму яны і не карыстаюцца беларускай мовай. Наш малы татарскі народ на Беларусі цалкам задаволены багаццем беларускай мовы, таму і карыстаецца гэтай мовай на вуліцы, на працы, дома, у думках і снах. Толькі ў малітвах мы, як мусульмане, карыстаемся арабскай мовай, а нашы святыя кнігі пераклалі на беларускую мову, каб ведаць, аб чым у іх гаворыцца.

Паводле савецкага перапісу 1989 г. з 12,5 тысяч татар каля 8 тысяч назвалі роднай мову – беларускую. Як заўважыў прафесар Аляксей Каўка з усіх іншаэтнічных супольнасцей у краіне беларускія татары былі адзінымі, хто ў сувязі з ініцыяваным Прэзідэнтам А.Р. Луашэнкам рэферэндумам (*травень 1995 г.*) аб наданні рускай мове статуса дзяржаўнай, як і беларускай, не хавалі сваёй трывогі, як бы ўзаконенае двухмоўе не абярнулася далейшым узмацненнем асіміляцыі, зніжэннем і без таго моцна паслабленага грамадскага прэстыжу роднай мовы беларусаў, што фактычна пасля рэферендума адбылося і адбываецца. Прагучаўшы ў тыя дні зварот дзеячоў татарскай культуры Ісмаіла Александровіча, Разаліі Александровіч, Аліі Усманавай, Якуба Якубоўскага і іншых да землякоў-суродзічаў дастойны павагі ў святле татарска-беларускага сяброўства, іх ўзаемнай салідарнасці на карысць нацыянальнай культуры.

*«Мы беларускія татары,*– гаварылася ў звароце,– *жывём на Беларусі амаль 600 гадоў і больш чым 500 гадоў карысталіся беларускай мовай як роднай. Нашы рукапісныя кнігі – аль-Кітабы захавалі беларускую мову XV–XVI стст. Ѝ не збіраемся адмаўляцца ад беларускай мовы, хоць кожны татарын разумее*

*іншыя славянскія мовы. Калі б бацькам прапанавалі памяняць сваіх родных дзяцей на іншых, прыгажэйшых, дужэйшых і разумнейшых, нават са знакам якасці на адпаведных месцах, то хіба толькі вар'яты згадзіліся б на гэта. А ці згодзіцца хто-небудзь памяняць сваіх бацькоў на іншых?*

*А ці ведаеце вы, як ставіліся да тых, хто мяняў сваю веру на іншую? Можа і заманьвалі ў сваю веру, але выхрыстаў ніхто не любіў і не паважаў. З 12 тысяч татар, якія жывуць на Беларусі, у час перапісу 1989 г. большасць сцвердзілі, што мова родная іх беларуская. Мы спадзяемся, што на рэферэндуме беларускія татары, як старажылы, так і пазнейшыя пасяленцы, выкажуцца за беларускую дзяржаўную мову без агаворак, бо далікатнасць, павага і шчырасць да народа, сярод якога мы жывём, да зямлі, дзе нарадзіліся нашы дзеці, дзе вечным сном спачываюць нашы продкі, якія не даруюць нам здраду сваёй Бацькаўшчыне." Цяжка сказаць,* – піша А. Каўка, – *колькі "татарскіх" галасоў улілося тады ў выніковае, больш чым "мільённае" беларускае "не" на згаданым вышэй галасаванні, ды не ў дакладнай лічбе справа. Важны і дарагі сам па сябе голас брацкай падтрымкі – невялікім народам вялікай справы нацыянальнага самазахавання. У гэтым маральным значэнні салідарнае слова беларускіх татар разам з падобным тады ж, зваротам да беларускай грамадскасці вядомых украінскіх пісьменнікаў А. Ганчара, І. Драча, Р. Лубкіўскага ды іншых трэба думаць застанецца незабыўным радком у летапісу беларускага адраджэння."* [4]

Сёння нашчадкі даўно забытых татарскіх ордаў – беларускія татары паспяхова працуюць ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, беражліва захоўваюць традыцыі продкаў, адраджаючы нашу супольную гістарычную і культурную спадчыну на карысць нашае маці Беларусі *(вядомыя імёны і слынных людзей: кампазітара Дз. Смольскага, члена-карэспандэнта АН Беларусі Бякіра Смольскага, маршала Фуада (Івана) Якубоўскага, прафесараў С. Александровіча, Х. Александровіча, І. Лебедзя, мастакоў А. Александровіч, Э. Асановіча, Б. Смольскага, Маргарыты і Ханафі Сайфугаліевых і шмат іншых паважаных людзей розных прафесій).*

Мы цалкам падзяляем думку, выказаную прафесарам У. Конанам у змястоўным і цікавым артыкуле "Беларусь на мяжы тысячагоддзяў. Штрыхі да гістарычнага, палітычнага і духоўнага партрэта нацы."[5] У ім аўтар сцвярджае, што *"... банальная памылка ўзнікае тады, калі беларуская нацыя атаясамляецца з усімі*

[4] А. Каўка. Будам жыць! Менск-Масква. 1998, сс. 228-229.
[5] Літаратура і мастацтва, 2000, 1 снежня.

*насельнікамі Беларусі. Тут роля іншаэтнічных груповак неадназначная. Калі яны уключаюцца ў моўна-культурны кантэкст тытульнай нацыі, тады гэта роля творчая, канструктыўная. Калі ж яны займаюць варожую пазіцыю да гэтага культурна-нацыянальнага кантэксту, тады іхняя роля разбуральная. Бывае і так, што іншанацыянальныя меншасці жывуць замкнутаю абшчынаю, тады іх пазіцыя да нацыі нейтральная."* Нават *"Тыя ... этнічныя беларусы,* — падкрэслівае У. Конан, — *якія не ўсвядомілі сябе беларусамі і аб'ектыўна не жывуць у кантэксце беларускай нацыянальнай мовы і культуры, актуальна выпадаюць з нацыі, іх прыналежнасць да яе — толькі эвентуальная, гэта значыць, толькі магчымая пры пэўных сацыяльна-палітычных умовах."*

Прафесар М. Піліпенка адзначае: *"Мноства фактаў сведчаць аб тым, што татары-мусульмане на Белай Русі цесна ўзаемадзейнічалі з беларусамі не толькі ў эканамічнай і палітычнай, але і ў культурнай сферах жыцця, бралі ўдзел у фарміраванні беларускага этнасу, узбагацілі яго мову і культуру. Беларусы і татары-мусульмане Беларусі маюць глыбокія гістарычныя сувязі. У іх агульныя інтарэсы, агульны гістарычны лёс. А таму ёсць пэўныя гістарычныя падставы для іх плённага супрацоўніцтва ў цяперашні час."* [6]

Шэсцьсот гадоў беларускія татары жывуць у міры і згодзе з усімі народамі нашай краіны. Сваю галоўную задачу арганізацыі беларускіх татар бачаць сёння ў адраджэнні духоўнасці ва ўзаемадзеянні з іншымі нацыянальнымі арганізацыямі і канфесіямі, скіраванай на ўратаванне грамадства, у першую чаргу, моладзі ад разбуральнага ўздзеяння так званай "масавай культуры", разгула гвалту, п'янства, разбэшчанасці, што калечаць маладыя душы. У сваіх штодзённых малітвах мы просім Усявышняга быць міласцівым і міласэрным да зямлі, на якой мы жывём і якая стала нашай Радзімай, і да людзей, якіх беларускія татары лічаць братамі сваімі.

***Мір Вам і міласць Усявышняга!***

**І. Канапацкі**



[6] Першая міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Татары-мусульмане на землях Беларусі, Літвы і Польшчы." Менск 26-27 сакавіка 1993, ч.1, Мн., 1994, сс. 42-43.

# У Беларусі стала менш за 10 мільёнаў жыхароў

Як паведамілі БелаПАН у Міністэрстве статыстыкі і аналізу, сёлета за восем месяцаў насельніцтва краіны зменшылася на 19,9 тысячы і склала на 1 верасня 9 999,6 тысячы чалавек.

Такім чынам, у новы 2001 год Беларусь уступіць з насельніцтвам каля 9 990 тысяч чалавек.

Такія вынікі натуральнага спаду насельніцтва, які назіраецца ў краіне з 1994 года. За апошнія шэсць гадоў колькасць жыхароў зменшылася больш чым на 300 тысяч. Гэта першае вядомае за ўсю гісторыю Беларусі такое працяглае зніжэнне колькасці насельніцтва ў выніку натуральнага спаду. Асноўнымі ягонымі прычынамі з'яўляюцца спад нараджальнасці і рост смяротнасці. Так, калі ў 1990 годзе нараджальнасць на 1000 жыхароў складала каля 14 чалавек, то ў студзені − жніўні 2000-га − 9,4; каэфіцыент смяротнасці − адпаведна 10,7 і 13,6. Асноўнымі прычынамі смяротнасці грамадзян Беларусі застаюцца хваробы сістэмы кровазвароту (*у 53 працэнтах выпадкаў*), новаўтварэнні (14), а таксама няшчасныя выпадкі, атручэнні і траўмы (*12 працэнтаў*).



**Даведка БелаПАН.** Раней колькасць жыхароў Беларусі змяншалася пераважна ў выніку эпідэмій (*напрыклад, чумы ў 1563−66 гадах*) і войнаў. Так, у вайне 1654−1667 гадоў паміж Рэччу Паспалітай, у склад якой уваходзіла Вялікае княства Літоўскае, і Маскоўскай дзяржавай загінулі 53 працэнты насельніцтва Беларусі. Паўночная вайна 1700−1721 гадоў забрала жыцці трэцяй часткі жыхароў. Падчас першай сусветнай вайны былі забіты і памерлі 1 мільён 200 тысяч беларусаў. Сур'ёзныя страты панесла рэспубліка і ў сталінскі перыяд. Так, калі ў 1927−1932 гадах колькасць жыхароў павялічылася на 720 тысяч, то за 1933−1938-ы − толькі на 220 тысяч.

Згодна з гістарычнымі звесткамі, колькасці ў 10 мільёнаў чалавек Беларусь дасягала двойчы − у 1939 і 1986 гадах. У 1939-м дзякуючы далучэнню Заходняй Беларусі да БССР насельніцтва рэспублікі павялічылася да 11 мільёнаў. Але ў 1939−1940 гадах урад СССР перадаў Віленшчыну Літве, у выніку чаго колькасць жыхароў Беларусі зменшылася да 10,5 мільёна. Потым грымнула Вялікая Айчынная вайна, якая пахавала каля трох мільёнаў беларусаў і выгнала з родных месцаў яшчэ адзін мільён. У 1945 годзе

насельніцтва рэспублікі складала 6 мільёнаў 265 тысяч чалавек. Хуткаму ягонаму павелічэнню садзейнічала рээвакуацыя грамадзян, якія выехалі з Беларусі ў гады вайны. У выніку ў 1950 годзе колькасць жыхароў перавысіла 7700 тысяч. Чарговымі фактарамі, якія пацягнулі спад жыхароў Беларусі, сталі перадача Польшчы Беласточчыны і трох раёнаў Брэстчыны, а таксама працоўная міграцыя ў Сібір і Казахстан. З гэтай прычыны ў 1951–1952 гадах колькасць жыхароў Беларусі зменшылася на 88 тысяч, у 1954-м – на 28 тысяч. З таго часу пачаўся працяглы рост насельніцтва рэспублікі, і мяжу ў 8 мільёнаў чалавек беларусы перайшлі ў 1958 годзе, 9 мільёнаў – у 1970-м, 10 мільёнаў – у 1986-м.

**З 1994 года колькасць жыхароў нашай краіны штогод змяншаецца на 20–40 тысяч. За 1999 год натуральны спад насельніцтва Беларусі склаў 31,1 тысячы чалавек.**

**Алесь Князюк**



## Невядомы лёс Варшаўскага імама

### Дакументы і матэрыялы

*(Працяг. Пачатак гл.: "Байрам" №№ 3, 4/1996 г. і №№ 1, 3, 4/1997 г., №№ 1, 2, 3, 4/1998 г., №№ 1,2, 3/1999 г.). лл. 293-295, 272-277.*

### Показания свидетеля Воронович Евы Хасеневны

*от 24 января 1941 г.*

*За дачу ложных показаний предупреждена об ответственности по 136 ст. УК БССР.*

**Вопрос**: С какого времени Вы проживали со своим мужем Вороновичем Али?

**Ответ**: С 28 сентября 1937 г.

**Вопрос**: С какого времени Вы с ним знакомы были раньше?

**Ответ**: Я его знаю с 1931 г. Он же меня знал и раньше.

**Вопрос**: Как Вы его знали с 1931 г.?

**Ответ**: Воронович Али – мой муж, является двоюродным братом моей матери. Сам он уроженец местечка Ляховичи Баранавичской

области, отец его раньше работал каким-то начальником, младший брат его Воронович Мустафа, младший за моего мужа на два года, проживает где-то в Литовской ССР. Мой муж – Воронович Али до 1926 г. проживал вместе со своими родителями, вначале в Ляховичах, а потом в г. Вильно. Не знаю, сколько они прожили в Вильно, но знаю, что мать его потом из Вильно возвратилась в Слоним. До 1922 г. муж мой Воронович Али вместе с родителями проживал в России, в Крыму. Там он окончил гимназию. В 1926 г. поступил в г. Львове в университет «Яна Казимира» на факультет восточных языков, который окончил в 1933 г. В этом же 1933 г., но точно не помню когда это было – в 1932 или 1933 г., он выехал в г. Каир *(Египет)*, где он изучал арабский язык, получал стипендию от быв. польского правительства. В августе 1936 г. он окончил университет в Каире и возвратился в Варшаву. Там я ним встретилась, потому что в этот период училась в политехникуме.

Прожив в Варшаве около одной недели, он выехал к матери в Слоним. В январе 1937 г. в связи с перевыборами в Варшаве муллы, он, Воронович, прибыл из Слонима в Варшаву на перевыборы, где был избран муллой и остался на жительстве в г. Варшаве. После этого мы с ним договорились о замужестве, я бросила учиться и выехала в г. Клецк к родителям, с ним, Вороновичем, имела переписку, а так же он почти каждый месяц приезжал из Варшавы до меня в Клецк. 28 сентября 1937 г. мы поженились и выехали на жительство в г. Варшаву, где проживали до 5 сентября 1939 г. 9 сентября прехали в Клецк, где проживали до настоящего времени. В Варшаве Воронович всё время работал муллой, я жила на его иждивении. За период проживания в Варшаве мы с Вороновичем два раза выезжали летом отдохнуть к родителям в Слоним и Клецк.

В 1938 г. в августе месяце были у его матери в Слониме около 7 дней и дней 20 в Клецке у моей матери, а в 1939 г. в конце июля были в Слониме у его матери, а в августе в Клецке у моей матери.

**Вопрос**: Проживая в г.Варшаве, куда ещё выезжал ваш муж Воронович?

**Ответ**: Являясь муллой, Воронович состоял в Высшей мусульманской коллегии по вопросам мусульманской религии, по делам этой коллегии он несколько раз в году выезжал в г. Вильно на съезды данной коллегии. В 1938 г. он ездил примерно раза 3–4, также и в 1939 г. Коллегия эта состояла из 4 человек, в неё входили мой муж Воронович, мулла по фамилии Мухля, не знаю его имени, а также не знаю в какой парафии он был муллой, слышала просто, что в коллегию ещё входит мулла Мухля, и ещё

